Гродна
№10 (468),
7 мая 2017
www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Дыяцэзіяльная перэгрынацыя фігуры Маці Божай Фацімскай



**ПРАГРАМА ПЕРЭГРЫНАЦЫІ ФІГУРЫ МАЦІ БОЖАЙ ФАЦІМСКАЙ У ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ**

**13 мая – 26 мая:** дэканат ШЧУЧЫН
**26 мая – 8 чэрвеня:** дэканат РАДУНЬ
**8 чэрвеня – 18 чэрвеня**: дэканат ІЎЕ
**18 чэрвеня – 26 чэрвеня:** дэканат АШМЯНЫ
**26 чэрвеня – 9 ліпеня:** дэканат АСТРАВЕЦ
**9 ліпеня – 19 ліпеня:** дэканат СМАРГОНЬ
**19 ліпеня – 3 жніўня:** дэканат ЛІДА
**3 жніўня – 10 жніўня:** дэканат НАВАГРУДАК
**10 жніўня – 17 жніўня:** дэканат ДЗЯТЛАВА
**17 жніўня – 25 жніўня:** дэканат СЛОНІМ
**25 жніўня – 2 верасня:** дэканат МАСТЫ
**2 верасня – 14 верасня:** дэканат ВАЎКАВЫСК
**14 верасня – 20 верасня:** дэканат БЕРАСТАВІЦА
**20 верасня – 27 верасня:** дэканат САПОЦКІН
**27 верасня – 9 кастрычніка:** дэканат ГРОДНА-УСХОД
**9 кастрычніка – 22 кастрычніка:** дэканат ГРОДНА-ЗАХАД

**УРАЧЫСТАЯ ПАДЗЕЯ РАСПАЧНЕЦЦА АКУРАТ У 100-УЮ ГАДАВІНУ АБ'ЯЎЛЕННЯЎ НЯБЕСНАЙ КАРАЛЕВЫ Ў ПАРТУГАЛІІ. "МЫ ЗНОЎ БУДЗЕМ МЕЦЬ МАГЧЫМАСЦЬ УЗГАДАЦЬ ЗМЕСТ ФАЦІМСКАГА ПАСЛАННЯ, КАБ УЗМАЦНІЦЬ НАШУ БАРАЦЬБУ СА ЗЛОМ І НАБЛІЗІЦЬ ТРЫУМФ БЕЗЗАГАННАГА СЭРЦА МАРЫІ", – ЗАЗНАЧАЕ Ў ПАВЕДАМЛЕННІ НА ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНУЮ ПЕРЭГРЫНАЦЫЮ ФІГУРЫ МАЦІ БОЖАЙ БІСКУП ГРОДЗЕНСКІ АЛЯКСАНДР КАШКЕВІЧ.**

● працяг на с. 4

## Каляндар падзей

*7 мая*
*Нядзеля Добрага Пастыра.*
*Сусветны дзень малітвы аб святарскіх, манаскіх і місійных пакліканнях.*
*Распачацце Тыдня малітвы аб пакліканнях да Божай службы ў Касцёле.*

*9 мая*
*Дзень малітвы за ахвяр ІІ Сусветнай вайны і аб супакоі ва ўсім свеце.*

*13 мая*
*100-ая гадавіна аб'яўленняў Маці Божай у Фаціме.*
*Распачацце перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай у Гродзенскай дыяцэзіі.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

*Май*
*За дзяцей, якія прыступаюць да Першай св. Камуніі, і моладзь, што прымае сакрамант канфірмацыі, а таксама за іх сем'і.*
*Аб абароне маладога пакалення ад дэмаралізацыі.*
*Аб дары плённай перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай у дыяцэзіі і аб добрай падрыхтоўцы да дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

*"Голас Евангелля"*
*Разважанні над Божым словам.*
*Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

*"Сімвал веры"*
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі.*
*Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".*
***Чарговы выпуск у чэрвені.***

*Навіны з Ватыкана па-беларуску*
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы.*
*Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на каротких хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*
*У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

**"Марыя – гарант пяшчоты Бога да чалавека". Папа Францішак**




**IV ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ**

**Ян 10, 1–10**

Езус сказаў: "Сапраўды, сапраўды кажу вам: хто ўваходзіць не праз браму на авечы двор, але залазіць інакш, той злодзей і злачынец. А хто ўваходзіць праз браму, той пастыр авечак. Брамнік яму адчыняе, і авечкі слухаюць голасу яго; і кліча сваіх авечак па імені і выводзіць іх. А калі ўсіх выведзе, ідзе перад імі, і авечкі ідуць за ім, бо ведаюць ягоны голас. За чужым не ідуць, але ўцякаюць ад яго, бо не ведаюць голасу чужых". Такую прыпавесць сказаў ім Езус, але яны не зразумелі, што Ён казаў ім. Езус зноў сказаў: "Сапраўды, сапраўды кажу вам: Я – брама для авечак. Усе, колькі іх прыходзіла перада Мною, гэта злодзеі і злачынцы, і авечкі не паслухалі іх. Я – брама. Калі хто ўвойдзе праз Мяне, будзе збаўлены, і ўвойдзе, і выйдзе, і знойдзе пашу. Злодзей прыходзіць дзеля таго, каб красці, забіваць і нішчыць. Я прыйшоў, каб вы мелі жыццё і мелі ў дастатку".

## СУЧАСНЫЯ ПАСТЫРЫ БОЖАГА ЛЮДУ

Многім з нас вельмі блізкі вобраз Езуса Хрыста, Добрага Пастыра, які нясе на сабе авечку, што заблукала. Езус з'яўляецца галавой Касцёла, паказвае кожнаму чалавеку шлях да збаўлення. А Яго авечкі ідуць за Ім.

Сёння Хрыстос вядзе свой статак праз намеснікаў на зямлі, пастыраў з люду Божага. Хто яны? Перш за ўсё, гэта Святы Айцец, Папа Рымскі, наступнік св. Пятра на Святым прастоле. Далей – біскупы ва ўсім свеце, якія знаходзяцца ў еднасці са Святым Айцом і Апостальскай Сталіцай. Затым – святары, якія апекуюцца Божай аўчарняй у меншых супольнасцях. Ім дапамагаюць дыяканы, якія служаць Касцёлу праз штодзённую малітву і вызначаныя ім абавязкі.

А ці ведаю я імя Святога Айца, ардынарыя дыяцэзіі, дапаможных біскупаў? Ці ведаю не толькі па імені пробашча, вікарыяў або іншых душпастыраў? Ці падтрымліваю іх служэнне малітвай? Ці прашу Бога аб новых пакліканнях да службы ў Яго аўчарні?

**V ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ**

**Ян 14, 1–12**

Езус сказаў сваім вучням: "Няхай не трывожыцца сэрца вашае. Верце ў Бога і ў Мяне верце. У доме Айца Майго шмат сятліц. А калі б так не было, ці сказаў бы Я вам, што іду падрыхтаваць месца для вас. І калі пайду і падрыхтую вам месца, прыйду зноў і забяру вас да сябе, каб і вы былі там, дзе Я. А дарогу, куды Я іду, вы ведаеце". Кажа яму Тамаш: "Пане, не ведаем, куды ідзеш. Як жа можам ведаць дарогу?". Езус сказаў яму: "Я – дарога і праўда, і жыццё. Ніхто не прыходзіць да Айца інакш, як толькі праз Мяне. Калі б вы ведалі Мяне, ведалі б і Айца Майго. І адгэтуль ужо Яго ведаеце і бачылі". Філіп кажа Яму: "Пане, пакажы нам Айца і хопіць нам". Адказаў яму Езус: "Філіпе, столькі часу Я з вамі, а ты не ведаеш Мяне? Хто Мяне бачыў, бачыў і Айца. То чаму ты кажаш: «Пакажы нам Айца»? Ці ты не верыш, што Я ў Айцу і Айцец ува Мне? Словы, што Я кажу вам, не ад сябе кажу. Але Айцец, які ўва Мне, Ён чыніць справы свае. Верце Мне, што Я ў Айцу і Айцец ува Мне. А калі не, то верце дзеля саміх учынкаў. Сапраўды, сапраўды кажу вам: хто верыць у Мяне, будзе рабіць учынкі, якія Я раблю, і большыя за іх зробіць, бо Я іду да Айца Майго".

## ЕЗУС – ДАРОГА САПРАЎДНАГА ЖЫЦЦЯ

Каб перамясціцца з аднаго пункта ў другі, неабходна пераадолець шлях. І таму, мабыць, кожны з нас, нягледзячы на тое, хоча гэтага ці не, з'яўляецца ўдзельнікам дарожнага руху. Ён адсутнічае толькі тады, калі няма наступных элементаў: таго, хто ідзе або едзе, ці таго, па чым ісці або ехаць. Дарога нашага жыцця – гэта Езус, аб чым Ён сам гаворыць у Евангеліі. Хрыстос надае сэнс любому падарожжу.

Кожны шлях – праезжая частка, пешаходная ці веласіпедная дарожка – мае свой пачатак і канец. Пачатак хрысціянскай дарогі знаходзіцца ў сакраманце хросту, а яе мэта – вечнае жыццё. Сама ж дарога – нdroўная, пятляючая, якая вядзе ўгару – падобна на Крыжовы шлях Езуса. Прайсці гэтым шляхам – заданне кожнага з нас. Аднак гэта немагчыма без Таго, хто ёсць Дарогай, Праўдай і Жыццём.

*Кс. Павел Эйсмант*



**Слова рэдактара**

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Станьма сведкамі вялікіх спраў!

*У маі прырода поўнасцю абуджаецца ад зімовай спячкі. Усё навокал пакрываецца зелянінай. На палях сонечным адценнем расцвітае рапс, на лугах з'яўляюцца дзьмухаўцы. Квітнеюць ландышы, цюльпаны, бэз... Абуджанае ўваскрасеннем Пана жыццё прыносіць радасць усім стварэнням на зямлі.*

Месяц май з незапамятных часоў прысвечаны Маці Божай. Мы бачым кранальнае сведчанне веры і любові людзей, якія збіраюцца не толькі ў касцёлах, але таксама каля прыдарожных капліц і ў дамах, каб спевам праслаўляць Найсвяцейшую Панну Марыю. Гэтае набажэнства з'яўляецца гімнам хвалы ў Яе гонар. У Ларэтанскай літаніі праслаўляем Беззаганную ў разнастайных тытулах, адначасова просячы Яе, каб была для нас найлепшай Маці.

Ужо на працягу некалькіх гадоў першая нядзеля мая ў нашай дыяцэзіі з'яўляецца Днём маці – днём, прысвечаным першай і самай блізкай асобе, якая любіць чалавека, нягледзячы ні на што. Вернікі ў добрай памяці ўзгадваюць вобраз матулі – часам з усмешкай на твары, часам стомленай і смутнай, якая заўсёды чувае над сваімі дзецьмі. Таксама ў маі маленькія вернікі, апранутыя ў белае адзенне, са складзенымі ручкамі і засяроджанымі тварамі ўпершыню прымаюць у свае сэрца Хрыста – Сына Найсвяцейшай Маці.

Сёлетні май мае асаблівае значэнне. У гэты час перажываем 100-ую гадавіну аб'яўленняў Марыі ў Фаціме. Прыгожая Панна, з'явіўшыся перад 3-ма маленькімі пастушкамі, перадала свету вельмі важныя словы: людзі павінны пакаяцца і паверыць у Евангелле Езуса Хрыста, павінны ахвяраваць свае цярпенні для выратавання чалавецтва. Не могуць больш абражаць Бога, а на Яго любоў мусяць адказваць любоўю.

Пазнаёміўшыся з фацімскім пасланнем, мы ўсведамляем, што гэта не толькі паведамленне аб будучым лёсе свету, але, у першую чаргу, канкрэтны заклік і падказка аб тым, што неабходна рабіць, каб абараніць свет ад няшчасця, а душу – ад пекла. Маці Божая звяртала ўвагу на тое, што ў малітве, асаблівая ружанцовай, а таксама ў пакаянні і сістэматычнай споведзі і Эўхарыстыі заключаецца моц перамогі дабра над злом.

У час змен, што адбываюцца навокал, калі адчуваем, што нам неабходна аднова і ўмацаванне веры, калі існуе спакуса паддацца знішчальнаму шэпту д'ябла, варта прыслухацца да голасу Марыі, якая просіць кожнага: ***"Прыйдзі да Мяне, даверся Майму Беззаганнаму Сэрцу; не губляй мужнасці, Я ніколі не пакіну цябе, Маё Беззаганнае Сэрца будзе тваім схованкам і дарогай, якая прывядзе цябе да Бога"*** *(Фаціма, 1917).*

**Дарагія Чытачы!**

Няхай найпрыгажэйшы месяц у годзе, прысвечаны Маці Божай, будзе для нас заахвочваннем да годнага жыцця. Няхай кожны пачуе пасланне Марыі. З адкрытым сэрцам прымаючы Яе словы, станьма сведкамі вялікіх спраў, якія Пан Бог здзяйсняе ў душах вернікаў.




# Фацімскія ўказальнікі

***Аб'яўленні Маці Божай у Фаціме – гэта святло, якое з'яўляецца асноўным элементам найважнейшай у гісторыі апошняга часу інтэрвенцыі з Неба, што адбылася ў 1917 годзе. Мінула ўжо 100 гадоў, але святло той падзеі дагэтуль не паблекла і не зацямнілася новымі ліхтарамі аб'яўленняў. Чым глыбейшы змрок вакол нас, тым яснейшы бляск абвешчаны ў Фаціме таямніцы Беззаганнага Сэрца Марыі.***

Праз Найсвяцейшую Панну Стварыцель хацеў перадаць людзям падказкі для вандроўкі ў невядомае. Просьбы, парады і перасцярогі Беззаганнай павінны былі дапамагчы нам пазбегнуць памылак, катастроф, цярпення, а ў першую чаргу – вечнай смерці, паколькі, згодна з Яе словамі, ***"многія душы ідуць у пекла"***.

Найглыбейшай прычынай войнаў, рэвалюцый, тэрарызму, беспарадкаў з'яўляецца грэх. Гэта таксама самы страшны вораг чалавека, бо яго сутнасць – адвярнуць асобу ад Бога. Марыя ў чарговы раз прыгадала свету, што ўмовай міру паміж людзьмі з'яўляецца, найперш, паяднанне з Усемагутным.

Гістарычным кантэкстам Фацімы быў досвед вайны. Найсвяцейшая Маці паказала дзецям, што акрамя франтоў І Сусветнай вайны існуе фронт іншай вайны, якая адбываецца ў кожным сэрцы. Бог змагаецца за збаўленне чалавека з праціўнікам, што хоча адцягнуць ад Яго, – з д'яблам. Нягледзячы на тое, што нячысты быў пераможаны Хрыстом, ён усё яшчэ мае моц шкодзіць асобным людзям і цэлым грамадствам. У рэшце рэшт, гэтая духоўная вайна вырашае лёс свету і людзей.

Св. Ян Павел ІІ навучаў: ***"Драматычны час, які цяпер перажывае чалавецтва, павінен схіліць людзей да таго, каб з даверам звяртацца да Беззаганнага Сэрца Марыі, якая здольна выпрасіць з намі і для нас збаўчую моц Божай ласкі. Вучні Хрыста сёння больш чым калі заклікаш моцай Духа Святога далучыцца да справы выратавання свету, таму што яшчэ ніколі так, як сёння, чалавеку не пагражала небяспека самазнішчэння".***

Збаўленне прыходзіць менавіта адтуль! Таму перад абліччам усё большай небяспекі Святы Айцец заклікаў Найсвяцейшую Маці, якая ў 1917 годзе аб'явіла ў Фаціме моц свайго Беззаганнага Сэрца: ***"Дапамажы нам перамагчы пагрозу зла, якое так лёгка ўкараняецца ў сэрцах людзей, зла, якое ў сваіх невымерных наступствах ужо навісла над сучаснасцю і намагаецца закрыць дарогі ў будучыню".***

Фацімскае пасланне, скіраванае кожнаму чалавеку, здаецца вельмі суровым. ***"Так, нібы Ян Хрысціцель прамаўляе над берагамі Ярдана. Заклікае да пакаяння. Перасцерагае"***, – заўважае св. Ян Павел ІІ. Але Марыя дала ўказальнікі, што прыводзяць да святла, якое нам, сучаснікам, неабходна прыняць, каб даручыць сябе кіраўніцтву Яе Беззаганнага Сэрца. Таму яно павінна стаць нашым прытулкам і дарогай, што вядзе да Хрыста, дарогай, на якой пануе супакой і блізкасць сэрцаў: нашых брацкіх сэрцаў, Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Маці і самога Божага Сэрца. Марыя прагне завесці кожнага чалавека ў Неба.

З маленькага партугальскага мястэчка дагэтуль яснее святло, што мае моц рассеяць сучасны змрок граху, нявер'я, бязбожжа ў нас саміх і навокал. Няхай жа яно ззяе для кожнага!

*Кс. Юрый Марціновіч*

## Юбілейная малітва прысвячэння Фацімскай Каралеве Ружанца

**Вітай, Маці Божая,**
**Панна Марыя, Фацімская Каралева Ружанца!**
**Благаслаўлёная Ты між жанчынамі!**
**Ты – вобраз Касцёла, напоўненага бляскам пасхальнага святла.**
**Ты – гонар нашага люду і знак перамогі над злом.**

**Абяцанне міласэрнай любові Айца,**
**Настаўніца абвяшчэння Добрай Навіны,**
**Знак палаючага агню Святога Духа!**
**У гэтай даліне радасці і смутку**
**навучы нас вечным праўдам,**
**якія Айцец аб'яўляе пакорным.**

**Пакажы нам сілу свайго мацярынскага клопату.**
**Няхай Тваё Беззаганнае Сэрца**
**будзе прытулкам для грэшнікаў**
**і шляхам, які вядзе да Бога.**

**О, Фацімская Ружанцовая Пані!**
**Аб'яднаныя з братамі і сёстрамі ў веры, надзеі і любові, Табе аддаёмся.**
**Аб'яднаныя з братамі і сёстрамі, праз Цябе прысвячаем сябе Богу.**
**Пагружаныя ў бляск святла, якое з Тваіх рук выцякае, складаем Богу хвалу на векі вечныя.**
**Амэн.**

# Санктуарый Маці Божай у Фаціме

**З нагоды 100-годдзя абʼяўленняў Марыі ў Партугаліі “Слова Жыцця” прапануе адправіцца ў віртуальнае падарожжа па адным з найбуйнейшых сусветных паломніцкіх цэнтраў – санктуарыі Маці Божай Фацімскай.**



*Малітоўная плошча перад базілікай Маці Божай Ружанцовай*

Сэрцам санктуарыя лічыцца **капліца Аб’яўленняў.** Пабудавана ў 1919 годзе па просьбе, якую выказала сама Панна Марыя. З 1920 года ў капліцы выстаўлена фігура Маці Божай, якая створана па вобразе, што бачыла і апісала візіянерка с. Луцыя дос Сантас. Фігура стаіць на пастаменце, устаноўленым на месцы, дзе рос дуб, над якім пастушкам аб’явілася Прыгожая Панна. Штогод 13 мая, у гадавіну аб’яўленняў Маці Божай у Фаціме, фігуру выносяць да шматлікіх пілігрымаў на плошчу перад святыняй.

У 1946 годзе фігура Панны Марыі Фацімскай была каранавана. Над каронай працавалі 12 майстроў-ювеліраў. Важыць яна каля 1,2 кг. Выраблена з чыстага золата, упрыгожана жэмчугам і каштоўнымі камянямі. У карону Панны Марыі таксама ўманціравана куля, якая трапіла ў папу Яна Паўла ІІ падчас замаху на яго жыццё ў 1981 годзе. Тады ад смяротнага ранення Пантыфіка выратавала толькі тое, што ён азірнуўся на дзяўчынку ў натоўпе, якая трымала ў руках абраз Фацімскай Панны.

Насупраць капліцы Аб’яўленняў размяшчаецца **базіліка Маці Божай Ружанцовай.** Яна была пабудавана на месцы, дзе 13 мая 1917 года 3-ое пастушкоў убачылі бліскавіцу, якая іх напалохала. Калі ўжо сабралі статак авечак і вярталіся дадому, там ім аб’явілася Маці Божая.

Будынак мае 70,5 м у даўжыню і 37 м у шырыню. Вітражы ў бакавых навах спасылаюцца на заклікі Ларэтанскай літаніі. Абраз у галоўным алтары адлюстроўвае аб’яўленне Маці Божай, якая зыходзіць на зямлю на сустрэчу з візіянерамі, падрыхтаванымі да гэтага Анёлам праз прыняцце Езуса ў Эўхарыстыі. Над галоўным уваходам у базіліку знаходзіцца мазаіка, якая адлюстроўвае каранацыю Святой Тройцай Найсвяцейшай Панны Марыі. Паўкругам святыню акружае каланада, дзе знаходзяцца 17 скульптур. Яны прадстаўляюць святых, супольнасці якіх маюць свае сядзібы ў Фаціме, а таксама



тых, якія дзякуючы сваім сачыненням і пропаведзям заслужылі тытул “марыйных апосталаў”. Сярод іх – св. Антоній Падуанскі, св. Тэрэза Авільская, св. Ян ад Крыжа. Большыя фігуры маюць 3,2 м у вышыню, а меншыя – 2,3 м.

Штогод у фацімскі санктуарый прыбывае каля 5-ці мільёнаў пілігрымаў з усяго свету.

Капліцу і базіліку злучае **Малітоўная плошча,** якая сваімі памерамі пераўзыходзіць плошчу перад базілікай св. Пятра ў Рыме. У знак асаблівага пакаяння вернікі спрабуюць прайсці па Дарозе пакутнікаў, якая цягнецца ўздоўж гэтай плошчы, на каленях. Пераадольваючы нялёгкі шлях, абмотваюць ногі тканінай, каб не параніцца аб камяні.

По абодвух баках Малітоўнай плошчы знаходзяцца будынкі **рэкалекцыйных дамоў Маці Божай з гары Кармэль і Маці Божай Балеснай.**

Партугалію называюць “краінай Фаду (народны музыкальны і танцавальны жанр), футбола і Фацімы”.

У 1973 годзе ў санктуарыі паўстала **базіліка Найсвяцейшай Тройцы.** Вялікая святыня разлічана на 8,5 тысяч вернікаў. У прэзбітэрыі могуць канцэлебраваць каля 100-а святароў. Базіліка ўваходзіць у 5-ку самых вялікіх касцёлаў свету.

Над галоўным уваходам у святыню на жалезнай сетцы падвешаны фігуры анёлаў, якія прыгадваюць аб’яўленні Анёла і запрашаюць увайсці ў святыню і пакланіцца Найсвяцейшай Тройцы. У базіліцы знаходзяцца шкляныя панэлі з 4-ма біблійнымі цытатамі, напісанымі на 27-мі мовах. У пярэдняй частцы алтара змешчаны фрагмент мармуру з магілы апостала Пятра, над якой пабудавана ватыканская базіліка. Гэты невялікі камень з’яўляецца бачным знакам еднасці з Паўсюдным Касцёлам.



У падзямеллі святыні цягнуцца Галілеі Апосталаў – шырокі 150-метровы калідор, усходнюю сцяну якога пакрываюць керамічныя пліткі азулежу са сцэнамі з жыцця свсв. Пятра і Паўла. З яго можна ўвайсці **ў капліцы Найсвяцейшага Сакраманту, Смерці Езуса, Уваскрасення Езуса, Найсвяцейшага Сэрца Езуса і Беззаганнага Сэрца Марыі,** а таксама ў залу св. Аўгусціна (шматфункцыйную выставачную пляцоўку).

Базіліку Найсвяцейшай Тройцы акружае прастора, падзеленая на 2 плошчы: **плошчу Яна Паўла ІІ і плошчу Пія ХІІ.** Там усталяваны помнікі Пантыфікам, а таксама Вялікі Крыж (34 м у вышыню).

На заходнім баку санктуарыя знаходзіцца **Пастырскі цэнтр Паўла VI.** Будынак названы ў гонар першага Папы, які прыбыў у пілігрымцы ў Фаціму.

На Паўднёвым кальцы пачынаецца **Крыжовы шлях,** што праходзіць праз сцежкі, якімі часта хадзілі пастушкі-візіянеры са сваім статкам. Ён заканчваецца Кальварыяй з **капліцай св. Стэфана.**

На тэрыторыі комплекса знаходзіцца **Музей фацімскага санктуарыя,** адкрыты ў 1955 годзе. Ён мае на мэце захаванне памятак, звязаных з гісторыяй аб’яўленняў і іх героямі. Цікаўнасць сярод пілігрымаў таксама выклікаюць дамы-музеі, у якіх нарадзіліся і жылі 3-ое дзцей-візіянераў. Яны знаходзяцца ў мясцовасці Алжуштрэл (каля 2-х км ад фацімскага санктуарыя).

По інтэрнэт-адрасе fatima.pt/pl/pages/transmisja-online можна трапіць непасрэдна да капліцы Аб’яўленняў і за тысячы кіламетраў памаліцца перад фігурай Маці Божай Фацімскай.



*Капліца Аб’яўленняў, пабудаваная на месцы, дзе пастушкі ўбачылі Марыю*

*Ангеліна Пакачайла*

# Я чытач «Слова Жыцця»

**Да 20-годдзя заснавання газеты Рэдакцыя аб’явіла конкурс сярод чытачоў. Ахвотным прапанавалася распавесці пра сябе і сваё сяброўства з выданнем, дадаўшы да гісторыі фотаздымак.**

**Прыемна здзівіла, што “Слова Жыцця” чытаюць розныя, але ў той жа час вельмі падобныя паміж сабой людзі. З лістоў відаць, што маладых і старэйшых аб’ядноўвае адно – вера, якая з’яўляецца мэтай кожнага свядомага хрысціяніна, і, у той жа час, сэнсавым стрыжнем выдання. Рэдакцыя таксама выказвае словы шчырай удзячнасці ўсім, хто скіраваў супрацоўнікам “Слова Жыцця” добрае слова і склаў свае віншаванні з нагоды юбілею заснавання газеты.**

**Усе апублікаваныя лісты адзначаны прызамі, якія ў хуткім часе трапяць да сваіх адрасатаў. Да новых сустрэч на старонках газеты!**

*З павагай, Рэдакцыя*





*Мяне завуць **Кацярына Максімік.** Жыву ў вёсцы Масаляны (дэканат Бераставіца). Вельмі люблю чытаць газету “Слова Жыцця”, дзе вучуся мноству цікавых рэчаў, адкрываю нешта новае. Самае цікавае для мяне – дзіцячая рубрыка. Я ўжо не дзіця, але заўсёды цікава прачытаць павучальную гісторыю, якая прыдасца і дарослым.*

*Даведалася пра “Слова Жыцця” ад нашага мясцовага святара. Чытаю газету ўжо 2 гады. Не так даўно пачала вывучаць польскую мову і цешуся, што магу знаёміцца з цікавымі тэмамі і заахвочваць да гэтага сваю сям’ю. Я шчаслівая і ўдзячная, што ёсць людзі, якія ствараюць газету, умацоўваюць нашу веру і дапамагаюць заставацца ў кантакце з Богам.*



*Мяне завуць **Алена Ражко.** Жыву ў адэльскай парафіі. З’яўляюся сталай чытачкай газеты “Слова Жыцця”. Вельмі яе люблю, стараюся не прапусціць ні аднаго нумара. Многія экземпляры газеты захоўваю. Канешне, я не маю ўсіх нумароў, але здзівілася, калі знайшла ў сваім архіве нумары з 1997 года! На здымку я трымаю перад сабой акурат адзін з іх, а таксама нумары, прысвечаныя 15-ай і 20-ай гадавіне заснавання. Газету любяць таксама члены маёй сям’і: муж і дзеці.*

*Звычайна пачынаю з прагляду фатаграфій і загалоўкаў артыкулаў. Потым чытаю рубрыку “Ад шчырага сэрца”, а затым усе артыкулы ад пачатку да канца. Цікавяць падзеі з жыцця парафіі, дыяцэзіі, а таксама прамовы Папы, арцыбіскупа і біскупаў. Агулам кажучы, чытаю ўсё. І ўсё яно цікавае ды павучальнае.*

*Дарагой Рэдакцыі жадаю шчодрых Божых ласкаў, адданых супрацоўнікаў і мноства ўдзячных чытачоў. Няхай Маці Міласэрнасці, якая знаходзіцца на першай старонцы “Слова Жыцця”, заўсёды будзе на чале ўсіх спраў газеты. Шчасці Божа!*

● працяг на с. 4–5

Слова для жыцця

### *Папа Францішак*



*Наш Бог – не адсутны Бог, выкрадзены далёкім Небам. Наадварот, Ён “натхнёны” чалавекам, якога любіць так пяшчотна, што не здольны ад яго адлучыцца. Мы, людзі, можам разбураць сувязі і масты, а Ён – не. Калі наша сэрца астывае – Яго сэрца заўсёды застаецца гарачым. Бог суправаджае нас заўсёды, нават калі, на няшчасце, забываемся пра Яго. На вузкай мяжы, якая адзяляе веру ад няверʼя, вызначальнае значэнне мае адкрыццё таго, што нас любіць і падтрымлівае Айцец, які ніколі не пакіне сваё стварэнне ў адзіноце.*

*Як доўга Бог будзе клапаціцца пра чалавека? Як доўга Пан Езус, які ідзе побач, будзе намі апекавацца? Адказ Евангелля не пакідае месца для сумненняў: да канца свету! Нябёсы прамінуць, зямля праміне, а Божае слова большае за ўсё і не праміне. А Ён – Бог з намі, Езус – Бог, які ідзе з намі. Не будзе ніводнага дня ў жыцці, калі б мы перасталі быць клопатам Божага сэрца. Ён непакоіцца пра нас і ідзе побач. А чаму так робіць? Проста таму, што любіць нас.*

*Фрагмент катэхезы, прамоўленай падчас агульнай аўдыенцыі, 26.04.2017*

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*Дары Святога Духа – гэта нябесны спажытак, які ўмацоўвае наш дух, каб ён мог жыць і функцыянаваць, каб маглі правільна думаць, добра разумець рэчаіснасць, мець належны, Божы погляд на жыццё. Каб мы добра ведалі, навошта жывём, чаго жадаем, на чым палягае найважнейшая мэта чалавечага існавання.*

*Сімваламі Святога Духа з’яўляюцца агонь і вецер. Агонь – таму што Дух Святы асвятляе наш розум і сэрца, каб маглі заўважыць і пазнаць тое, што нябачна вачам: духоўнае, звышнатуральнае. Ён саграва сэрцы, робіць іх адчувальнымі на Божую любоў і здольнымі адорваць цеплынёй любові бліжніх.*

*Сімвалам Святога Духа з’яўляецца таксама вецер. Папа Бенедыкт XVI у адной са сваіх прамоў параўнаў Касцёл з парусьнікам. Калі ён знаходзіцца на вадзе і няма ветру, то стаіць на месцы. Але калі ў ветразі дзьме вецер, ён рухаецца і плыве. Падобна і з Касцёлам. Калі б не было ветру Святога Духа, Касцёл стаяў бы на месцы, быў бы апатычным, скасцянелым.*

*Фрагмент казання на св. Імшы з удзяленнем сакраманту канфірмацыі ў парафіі Суботнікі, 22.04.2017*




◆ *Падчас апостальскага візіту ў Егіпет папа Францішак сустрэўся з Прэзідэнтам краіны Абдулам Ас-Сісі, шэйхам універсітэта аль-Азхар Ахмедам ат-Тайебам, кіраўніком копцкай Царквы Патрыярхам Феадорам (Тавадросам) II, Патрыярхам каталіцка-копцкім Ібрагімам Ісакам Сідракам і іншымі біскупамі гэтага ўсходняга каталіцкага Касцёла, духавенствам, кансэкраванымі асобамі і семінарыстамі. Гэта было 18-е замежнае падарожжа Святога Айца і, разам з тым, 2-е ў Афрыку.*

◆ *Папа Францішак фінансава падтрымаў італьянскую дабрачынную арганізацыю "Справа св. Луіджы Ганзагі", якая ўтрымлівае пляж для людзей з абмежаванымі магчымасцямі. Адзінае такога роду месца ў акрузе знаходзіцца на ўзбярэжжы Тырэнскага мора. Тут зроблены адмысловыя дарожкі, якія дазваляюць людзям, прыкаваным да інвалідных калясак, самастойна даязджаць да пляжных лежакоў, санітарных памяшканняў, кававага бара і, вядома, да мора. Купацца ім дапамагае спецыяльна падрыхтаваны персанал.*

◆ *Навукоўцы, якія даследуюць Турынскую плашчаніцу, знайшлі яшчэ 1 доказ часу паходжання палатна. Пацверджана гіпотэза, што вочы памерлага закрывалі манеты (згодна звычаю, які існаваў у габрэйскай культуры). Падчас рэнтген макрафатаграфіі прааналізаваны фрагменты адбіткаў цені вакол вачэй. На іх распазнаны надпіс "UKAI", які, хутчэй за ўсё, паходзіць ад грэчаскага "TIBERIOUKAIROS" ("Імператар Тыберый"). Вынікі даследаванняў сведчаць аб тым, што манеты адчаканены ў часы праўлення Цэзара, намеснікам якога ў Юдэі быў Понцій Пілат.*

◆ *У сувязі з юбілеем 300-годдзя каранацыі абраза Маці Божай Чанстахоўскай айцы паўліны з Яснай Гары заахвочваюць да ўдзелу ў ініцыятыве "Жывая карона Марыі". Яна заключаецца ў прыняцці канкрэтнага духоўнага абавязацельства, напрыклад, споведзі пасля многіх гадоў, прымірэння з кімсьці пасля доўгага канфлікту, пастановы парваць з алкаголем, наркотыкамі і інш. Гэтае абавязацельства неабходна запісаць на адваротным баку свайго папяровага фотаздымка і адправіць на Ясную Гару. У адказ паўліны дасылаюць выяву Маці Божай, як знак таго, што "ты з'яўляешся "брыльянтам" у Жывой кароне Марыі".*

◆ *Нямецкая дыяцэзія Аўгсбург апублікавала "Social-Media-Codex" ("Кодэкс працы ў сацыяльных сетках"), які абавязвае 14 тысяч работнікаў лакальнага Касцёла. Брашуру з указаннямі атрымала духавенства, курыяльныя работнікі, настаўнікі, выхавацелі і інш. У дакуменце падкрэсліваецца, што ў хрысціянскім служэнні не павінна быць ананімнасці і падвойных стандартаў. Варта клапаціцца аб тым, каб кантэнт у сацсетках адпавядаў афіцыйнаму вучэнню Касцёла. Падобны кодэкс нямецкі епіскапат ужо выдаваў у 2012 годзе. Аднак ён, у адрозненні ад цяперашняга, меў рэкамендацыйны характар.*

*credo.pro; pch24.pl; niedziela.pl*

*Ангеліна Пакачайла*

● працяг са с. 1

# Дыяцэзіяльная перэгрынацыя фігуры Маці Божай Фацімскай



## ВОДГАЛАС МІНУЛАГА

Першая перэгрынацыя фігуры Маці Божай Фацімскай у Беларусі была прысвечана 80-годдзю аб'яўленняў Марыі ў Партугаліі. Спецыяльна да юбілею кардынал Казімір Свёнтэк асвяціў і прывёз з фацімскай зямлі фігуру Маці Божай, якая з мая 1997 года па верасень 1998 года пілігрымавала па касцёлах і капліцах Беларусі.

Перад перэгрынацыяй вернікі краіны рыхтаваліся да прыняцця фігуры Марыі праз місіі і рэкалекцыі, пазнаючы змест і сутнасць фацімскага паслання. Непасрэдна самі дні наведвання фігуры ў парафіяльных супольнасцях былі звязаны з моцнымі перажываннямі, якія ўнасілі святло і надзею ў людскія сэрцы. Вернікі ўшаноўвалі Маці Божую праз дзённае і начное малітоўнае чуванне, св. Імшу, Камунію, працэсію са свечкамі. Па словах ардынарыя Гродзенскай дыяцэзіі біскупа Аляксандра Кашкевіча, ***"гэта быў час Матчыных указанняў і перасцярог для заблукалых, суцяшэння і ўмацавання для слабых і няўпэўненых".***

## У ЭКУМЕНІЧНЫМ ДУХУ

На пачатку перэгрынацыі кардынал Казімір Свёнтэк заўважыў: ***"Я пераканаваны, што гэтая пілігрымка Маці Божай Фацімскай у Яе фігуры ажывіць рэлігійнае жыццё краю, наблізіць людзей да Бога і паспрые збліжэнню ўсіх веравызнанняў".***

І сапраўды. Да ўшанавання Маці Божай вельмі часта далучаліся вернікі праваслаўнай Царквы. ***"На мяжы парафіі Міжэрычы, у вёсцы Аляксандрыўшчына** (Слонімскі дэканат – заўв. аўт.), **дзе ў большасці жывуць праваслаўныя, людзі выслалі дыван з кветак плошчай 50 метраў і паставілі алтар, пры якім адбыўся не прадугледжаны праграмай паўгадзінны прыпынак,*** – успамінае а. Ян Банькоўскі OFMCap. – ***Вернікі са слязамі на вачах маліліся і спявалі праваслаўныя марыйныя песні. У самім касцёле ў Міжэрычах падчас адарацыі была прызначана спецыяльная гадзіна малітвы для праваслаўных хрысціян, якія ў вялікай колькасці прыбылі ў святыню. Пазней яны з радасцю неслі фігуру падчас працэсіі, замяняючыся з іншымі групамі вернікаў. На наступны дзень па дарозе ў парафію Дзявятквавічы ў вёсцы Дзергелі праваслаўныя ўсталявалі палявы алтар, на якім была выстаўлена фігура. З пачуццём глыбокай пашаны з ёй развітваліся ўсе вернікі: як католікі, так і праваслаўныя".***

У падобнай атмасферы праходзіла перэгрынацыя фігуры Маці Божай Фацімскай ва ўсіх парафіях Беларусі.

Падзея сапраўды насіла выключны характар, так як праваслаўная Царква на афіцыйным узроўні да сённяшняга дня не прызнае аб'яўленні ў Фаціме. Але вера ў заступніцкую моц Маці Божай перад Яе Сынам здолела аб'яднаць шматлікіх вернікаў, незалежна ад канфесійнай прыналежнасці, і нават атэістаў. ***"Наведванне фігуры Маці Божай сустрэлася з вялікай зацікаўленасцю няверуючых, абыякавых да рэлігіі і вызнаўцаў іншых рэлігій, якія жывуць у нашай парафіі. Можна сказаць, што Марыя сабрала вакол сябе шмат людзей, асабліва пры сваім прывітанні і падчас св. Імшаў на пачатак і развітанне",*** – запісана ў памятнай кнізе, якая спадарожнічала фацімскай фігуры ў яе пілігрымцы па Гродзенскай дыяцэзіі, парафіянамі касцёла ў Кемелішках (Астравецкі дэканат).



*Вышэйшае духавенства ў працэсіі з марыйнай фігурай 20 гадоў таму*

## ТРЫУМФ СЭРЦА МАЦІ БОЖАЙ

У Гродзенскай дыяцэзіі фігуру Марыі перавозілі з парафіі ў парафію спецыяльным аўтамабілем-капліцай, які арганізаваў бр. Альбін з Супольнасці Братоў Самарыцян з Дзярэчына (Слонімскі дэканат). Пілігрымка доўжылася з чэрвеня па лістапад 1997 года. Затым фігура прабывала ў семінарыйнай і манастырскіх капліцах, гродзенскай катэдры. У маі 1998 года там адбыліся святкаванні, звязаныя з заканчэннем перэгрынацыі ў Гродзенскай дыяцэзіі, пасля чаго фігура была ўрачыста перададзена ў мінскую архікатэдру. Там адбыўся акт прысвячэння Беларусі Беззаганнаму Сэрцу Маці Божай. ***"Святая Марыя!*** – прамовіў кардынал Казімір Свёнтэк. – ***Аддаю Табе ўсе парафіі, усе святыні, капліцы, усіх святароў і манахаў, увесь гэты верны люд Божы. Будзь поўнай гаспадыняй ва ўсіх святынях і дамах".***

Зараз фігура Маці Божай знаходзіцца ў пінскай катэдры, як напамін аб заўсёды актуальным фацімскім пасланні.

## ДРУГОЕ ПРЫВІТАННЕ МАРЫІ Ў ФАЦІМСКАЙ ФІГУРЫ

І вось мінула ўжо 20 гадоў. Змянілася пакаленне вернікаў, Касцёл у краіне перажыў духоўнае адраджэнне. Маці Божая ў фацімскай фігуры імкнецца зноў дакрануцца да дыяцэзіян, каб благаславіць іх на далейшыя справы на хвалу Бога.

Варта нанова адкрыцца на паўторнае прышэсце Найсвяцейшай Панны. Перад прыняццем у парафію перэгрынацыйнай фігуры (за 9 дзён) рэкамендуецца распачаць Навэнну да Маці Божай з Фацімы. Асаблівым знакам падрыхтоўкі таксама павінен стаць удзел у сакрамантах пакаяння і Эўхарыстыі. Належыць узгадаць плён мінулай перэгрынацыі (навяртанні, паяднанні, духоўныя аздараўленні, перапрашэнні, падзякі, просьбы і інш.), прынятыя пастанаўленні. Усё гэта павінна абудзіць прагу сэрца да далейшага духоўнага ўдасканалення.

Завяршэнне перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай адбудзецца ў гродзенскай катэдры 22 кастрычніка. Пачатак св. Імшы ў 12.00. Пасля ўрачыстай літургіі фігура застанецца ў святыні.

*Ангеліна Пакачайла,*
*выкарыстана фота ave-maria.by*

**Падчас агульнабеларускай перэгрынацыі ў 1997–1998 гг. Маці Божая ў фацімскай фігуры наведала 45 парафій у Пінскай дыяцэзіі, 154 парафіі ў Гродзенскай дыяцэзіі і 117 парафій у Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.**

**Урачыстае распачацце дыяцэзіяльнай перэгрынацыі да 100-годдзя аб'яўленняў Марыі ў Партугаліі адбудзецца ў Санктуарыі Маці Божай Фацімскай у Шчучыне 13 мая.**

10.00 – канферэнцыя на тэму "Актуальнасць культу Маці Божай Фацімскай" (а. д-р Віталій Сярко SP);
11.00 – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;
12.00 – св. Імша з асвячэннем фігуры Маці Божай Фацімскай і распачацце перэгрынацыі.

*Запрашаюцца святары, манахі і манахіні, а таксама вернікі дыяцэзіі.*

● працяг са с. 3

*Мяне завуць **Яніна-Марыя Палуян**. З нядаўніх пор жыву ў Доме міласэрнасці ў Каменцы (дэканат Шчучын). З'яўляюся чытачкай "Слова Жыцця" ўжо 20 гадоў. Чытаю кожны нумар ад пачатку да канца. А таксама расказваю іншым аб тым, што прачытала.*

*Хачу падзякаваць усім працаўнікам рэдакцыі газеты "Слова Жыцця", дзе кожны чалавек знаходзіць для сябе шмат цікавага і карыснага. Аддзяч, Божа!*



*Я **Алена Бойша** з Гродна. Чытаю "Слова Жыцця" з сям'ёй ад самага пачатку яго заснавання. У газеце знаходжу шмат чаго новага і цікавага для свайго духоўнага развіцця. Дзякуючы "Слову", сачу за падзеямі, якія адбываюцца ў Касцёле. Люблю чытаць разважанні іерархаў у рубрыцы "Слова для жыцця". Заўсёды духоўна далучаюся да віншавальнай рубрыкі "Ад шчырага сэрца". Мне вельмі імпануе дзіцячая рубрыка – цікавая і карысная. У даступнай форме ў ёй асвятляюцца даволі глыбокія і вартыя ўвагі пытанні. Упэўнена, рубрыка прыцягвае ўвагу многіх дарослых.*

*Заўсёды чытаю газету падчас адпачынку. Часта перагледваю старыя выпускі. Выкарыстоўваючы кантэнт выдання, імкнуся евангелізаваць на працы. А працую медсястрой у дзіцячым садку.*

*Усім, хто ўдзельнічае ў справе выдання газеты "Слова Жыцця", Божай дапамогі і апекі Найсвяцейшай Маці!*



*Мяне завуць **Тэрэса Карповіч**. Я з Анжадава (Ашмянскі дэканат). Чытаю "Слова Жыцця" з 2001 года. Многія нумары захоўваю, перачытваю іх часта і з задавальненнем. Газета не старэе, бо кожны артыкул у ёй – гэта сапраўднае Слова Жыцця, невычэрпная крыніца мудрасці, душэўных лекаў, сапраўдны арыенцір католіка.*

*Часта даводзіцца чуць сярод людзей пытанні наконт таго, як маліцца, за што карае Бог... У падобных выпадках я заўсёды кажу: "Чытайце «Слова Жыцця» і будзеце ўсё ведаць. Вядома, адказаў на ўсе пытанні ў адной газеце не знайсці. Але варта чытаць яе рэгулярна і ўдумліва. «Слова Жыцця» з'яўляецца сапраўднай энцыклапедыяй хрысціянскай веры".*

*Асабіста я дзякуючы Вашаму выданню больш глыбока адкрываю свае слабасці і намагаюся ісці праўдзівым шляхам да Неба. Часам выпісваю нейкія выразы з артыкулаў. З задавальненнем папаўняю свой слоўнікавы запас новымі рэлігійнымі тэрмінамі. Заўсёды бяру 2 версіі газеты. Такім чынам вучу польскую мову.*

*З цікавасцю чытала гісторыі касцёлаў (асабліва знаёмых мне). Па матэрыялах газеты нават зрабіла альбом "Касцёлы Ашмяншчыны". З аповедаў пра святых упершыню пачула, што даніну пашаны св. Юзафу аддаём не толькі 19 сакавіка, але і 1 мая як рамесніку і абаронцу працоўных. І калі ў дзень яго ўспаміну хрысцілі майго ўнука Глеба, з радасцю далі яму яшчэ адно імя – Юзаф. А колькі новага я даведалася пра дзейнасць святароў езуітаў! Асабліва ў параўнанні з тым, як пра іх тлумачылася ў савецкіх падручніках. Моцны ўплыў на маю веру аказала гісторыя Плашчаніцы. А прытча-апавяданне "Пётр салдат" пра мужчыну, якому вароты ў рай адкрылі "здраваські", што той адмаўляў, падштурхнула мяне запісацца ў Кола Жывога Ружанца.*

*Паважаная Рэдакцыя, даўно хацелася скіраваць Вам добрае слова, якога заслугоўваеце. Рада, што знайшлася адпаведная нагода. З вялікім задавальненнем выказваю падзяку кс. Юрыю і ўсім руплівым газеты "Слова Жыцця" за клапатлівую і карысную справу, якой займаецеся. Выданне ўзбагачае душу і ўмацоўвае веру. Жадаю, каб добры Бог адарыў Вас моцным здароўем і асабістым шчасцем, каб цешыліся тым дарам, які надзяліў Бог. Ведайце, мы – чытачы – вельмі любім Вас!*

*P.S. Мой старэйшы ўнук зараз вучыцца чытаць, восенню пойдзе ў 1 клас. Я бязмерна рада, што ён ужо самастойна прачытаў назву Вашай газеты. Ад усёй душы хочацца, каб праз пэўны час яна стала для ўнука любімай, як і для мяне.*

# Марыйныя абразы на паштовых марках

**Спрадвеку на нашай зямлі і сярод праваслаўных, і сярод каталікоў асабліва ўшаноўваецца культ Багародзіцы. Маці Божая – Заступніца, Апякунка, Збавіцельніца, Міласэрная... Народ прыдумаў Ёй шмат тытулаў. У іх утоена непазбыўная надзея і самая шчырая вера. Можа, таму менавіта на Беларусі столькі прыгожых легенд аб Яе дзівосным з'яўленні, столькі цудатворных ікон?**

Сусветная іканаграфія налічвае каля 700 назваў абразоў Багародзіцы. Я вырашыў расказаць аб найбольш шануемых іконах Маці Божай на беларускай зямлі, якія адлюстраваны на паштовых марках.

Самая вядомая выява Маці Божай у Беларусі, і ў прыватнасці ў Гродзенскай дыяцэзіі, – Вастрабрамская, якая ў цудадзейным абразе з'яўляецца асаблівай Заступніцай літоўскіх, беларускіх і польскіх земляў ужо больш за 300 гадоў. Прыгожае адлюстраванне Найсвяцейшай Марыі Панны са злёгку схіленай галавой у арэоле з 12-ці зорак і шматлікіх прамянёў запрашае да роздуму і малітвы. Далікатная стройная постаць Багародзіцы з прыадкрытымі вачыма і скрыжаванымі на грудзях далонямі абуджае ў чалавеку любоў і давер. Незвычайная лагоднасць, задуменнасць, асалода і адначасова глыбокая павага выпраменьваюцца з гэтай выявы. Пошта Літвы адлюстравала такі цудадзейны абраз на сваёй марцы ў 1990 годзе.



*Абраз Маці Божай Вастрабрамскай на паштовай марцы Літвы*

Славуты сваімі ласкамі абраз Маці Божай Чанстахоўскай ведаюць і шануюць не толькі ў Польшчы. Такія выявы Багародзіцы ёсць таксама ў святынях Беларусі і Літвы. Паводле падання, абраз быў напісаны яшчэ пры жыцці Найсвяцейшай Панны евангелістам Лукой на дошцы таго стала, за якім трапезнічалі Езус Хрыстус, Марыя і Юзаф. Калі Апостал прынёс малюнак да Багародзіцы, яна сказала: "Міласць Народжанага ад Мяне і Мая нехай будзе з абразом гэтым!". Першай выяву Маці Божай Чанстахоўскай на сваёй марцы ў 1966 годзе змясціла пошта Ватыкана, у 1992 годзе марачны блок надрукавалі ў Польшчы. А ў 2000 годзе адбылося сумеснае выданне маркі з выявай Маці Божай Чанстахоўскай поштамі Ватыкана і Польшчы.

*Выява Маці Божай Чанстахоўскай на марцы Ватыкана*

Адна з першых выяў Нябеснай Валадаркі – старажытная ікона Багародзіцы "Непарушная сцяна". Яе арыгінал знаходзіцца ў алтары кіеўскага Сафійскага сабора. На працягу 9-ці стагоддзяў ікона заставалася непашкоджанай, таму атрымала такую назву. У самыя цяжкія часы Маці Божая ў цудадзейным абразе дапамагала беларускаму і ўкраінскаму народам. На вялікім паўкружжы вакол іконы знаходзіцца грэчаскі надпіс чорнай мазаікай: "Бог пасярод Яе і нішто не пераменіцца: дапаможа Ёй Бог раніцай і пасля таго". У 2000 годзе рэпрадукцыя гэтай іконы была змешчана на адной з 3-ох марак блока да 2000-годдзя хрысціянства, які пошта Беларусі выпусціла сумесна з поштамі Украіны і Расіі.



*Ікона Багародзіцы "Непарушная сцяна" (першая злева) на паштовым блоку "2000-годдзе хрысціянства"*

У Беларусі таксама ўведзены ў паштовы зварот блок з 3-ох марак "Іканапіс Беларусі XXI стагоддзя". Адна з марак – абраз Маці Божай Уладзімірскай. Належыць да іканаграфічнага тыпу Еляуса – Замілаванне. Іконы такога тыпу перадаюць любоў, якая яднае Маці з Сынам. У іх падкрэсліваецца чалавечая натура Хрыста. Марыя, прадстаўленая да паловы постаці, трымае на правай руцэ Дзіцятка, якое ласкава туліцца да Яе: шчакою да шчакі, абдымаючы Маці за шыю левай рукой, а правай дакранаючыся да Яе ключыцы. Марыя схіляе сваю галаву да Сына, паказваючы левай рукой на Езуса, як на прадказанага Збаўцу свету – адзіную Дарогу, Праўду і Жыццё. Твар Багародзіцы засяроджаны, сумны, з вялікімі аліўкавымі вачыма, якія глядзяць на поўны задумення тварык Езуса. На залацista-вохрысты з белай аблямоўкай акруглы німб Маці Божай заходзіць меншы, крыжовы німб Дзіцятка, таксама залацista-вохрыстага колеру з 2-ма грэчаскімі літарамі "І" ("ёта", што азначае імя Езус) і "Н" ("эта", можа азначаць слова "hegemon" – "правадыр", "кароль"). Верагодна, гэтыя літары з'яўляюцца скарачэннем IXEH ад "Iesus Chrystos eleison hymas" ("Езус Хрыстус, змілуйся над намі").



*Абраз Уладзімірскай Божай Маці (першы злева) на паштовым блоку "Іканапіс Беларусі XXI стагоддзя"*

У 2013 годзе Белпошта выпусціла паштовы блок да 400-годдзя прыбыцця цудатворнага абраза Маці Божай ў Будслаў. Абраз іканаграфічна належыць да заходне-еўрапейскага тыпу Адыгітрыі. Маці Божая намалявана да пояса, у чырвонай вопратцы, белым галаўным уборы і цёмна-зялёным мафорыі з карункавай аблямоўкай. Дзіцятка знаходзіцца на Яе левай руцэ ў вольнай паставе, у светлым хітоне і цёмна-жоўтым плашчы. Пухлыя ручкі працягнуты да Маці: правая блаславяе, а левай Езус нібы дае Марыі гранат – шматзначны сімвал вечнага жыцця, а таксама хрысціянства, шматлікіх вернікаў якога адлюстроўваюць зярняты садавіны.

Па словах хрысціянскага тэолага Грыгорыя Паламы, Божая Маці з'яўляецца акном, якое звязвае сусвет: "Яна – слава зямных, весялосць нябесных, упрыгожанне ўсяго створанага. Яна – пачатак, крыніца, корань нашага спадзявання на Нябёсах, якое і дасягнём толькі Яе малітвамі за нас...".



*Цудадзейны абраз Маці Божай Будслаўскай на паштовым блоку, выдадзеным поштай Рэспублікі Беларусь*

Маці Божая, маліся за нас грэшных. Цяпер, і заўсёды, і на векі вякоў. Амэн.

*Лявон Карповіч*







***Аздароўлены прыедзе на іканізацыю ў Фаціму***

***Дзіця з Бразіліі, якое ацалілася дзякуючы заступніцтву блбл. Гіяцынты і Францішка Марто, будзе прысутнічаць на іх іканізацыі.***

*Бацькі хлопца прымуць удзел у прэс-канферэнцыі ў санктуарыі, падчас якой абнародуюць падрабязнасці незвычайнай падзеі, што адбылася больш за 10 гадоў таму. Тады 6-годка выпаў праз акно і атрымаў сур'ёзную траўму галавы. Група медыкаў сцвердзіла, што пацярпелы застанецца ў вегетатыўным стане ці будзе мець абмежаваныя разумовыя здольнасці да канца жыцця.*

*Праз 3 дні пасля здарэння ўрачы сцвердзілі, што хлопец абсалютна здаровы. У 2007 годзе іншая група медыкаў канстатавала, што дадзены выпадак належыць прызнаць невытлумачальным з навуковага пункту гледжання. Сям'я аздароўленага дзіцяці прызналася, што падчас выратавальнай аперацыі бацька маліў аб дапамозе Маці Божую Фацімскую, а таксама блбл. Гіяцынту і Францішка.*




***Невылечна хворыя сустрэнуцца з Папам***

***Святы Айцец Францішак – першы Пантыфік у гісторыі, які прыме на аўдыенцыі людзей, пакутуючых на харэю Хантынгтана.***

*Некалькі сем'яў з Паўночнай Амерыкі, дзе захворванне назіраецца ў 1000 разоў часцей, чым на іншых кантынентах, прыбудуць у Рым, каб падзяліцца з Папам асабістымі гісторыямі. Для некаторых гэта будзе першае ў жыцці замежнае падарожжа.*

*HD з'яўляецца невылечнай, смяротнай хваробай. Да сённяшняга дня не выналезена лякарства ад яе. У хворых назіраюцца хаатычныя рухі, а таксама кагнітыўныя і псіхічныя праблемы.*




***Каралева прыгажосці – манахіня***

***20-гадовая Эсмеральда Соліс Гагзалес, якая выйграла конкурс прыгажосці ў родным горадзе і кваліфікавалася ў фінал "Міс Мексіка" ў 2016 годзе, жыццё мадэлі і дыеталага вырашыла замяніць на жыццё ў манастыры.***

*Дзяўчына паступіла ў навіцыят мексіканская філіяла сясцёр кларысак, каб пагладзець на сваё існаванне з іншай пазіцыі. "Я была вельмі задаволена тым, што мела. Аднак гэта непараўнальна са шчасцем, якім цяпер напоўніў маё сэрца Бог", – падзялілася Эсмеральда.*

*Кінга Красіцкая*



*Мяне завуць **Ірына Юрканіс**. Жыву ў Гродне. Вольны час з газетай "Слова Жыцця" праводзіць уся мая сям'я. Чытаем яе з 1997 года, з самага пачатку. На фотаздымку мая ўнучка Марта са шматлікімі нумарамі, якія беражліва захоўваем у сямейным архіве.*

*На старонках выдання заўсёды знаходзім пра што пачытаць. Пачынаем з актуальнага "Календара падзей". Далей пераходзім па рубрыках "Ад шчырага сэрца", "Слова для жыцця", "Варта ведаць", "Учора, сёння, заўтра". З іх даведваемся шмат інфармацыі, якая хутка і ярка адлюстроўвае важныя падзеі, што адбыліся ці будуць адбывацца ў Гродзенскай дыяцэзіі і не толькі. Затым кожны выбірае сваё. Муж з дзецьмі – "Тое, што застаецца навекі" і "З жыцця Касцёла". Мама – "На шляху да святасці", "Выхаванне да адказнасці". Унукі вельмі любяць рубрыку "Адпачынак са «Словам»". Асабіста я чытаю газету ад вокладкі да вокладкі. Вельмі падабаюцца артыкулы з удзелам моладзі. Цешыць, што маладыя людзі цікавяцца Касцёлам. Пасля самыя займальныя артыкулы абмяркоўваем.*

*Газета цалкам адпавядае нашым запатрабаванням. Спадзяёмся, яна будзе выдавацца і ў будучыні!*



*Мяне завуць **Юзэфа Вішнеўская**. Жыву ў Гродне. Чытаю "Слова Жыцця" з першага нумара. Кожны з іх вельмі цікавы. І старэйшы, і малады чалавек знаходзіць у газеце штосьці для паглыблення сваёй веры. Мяне пераважна цікавяць гісторыі будаўніцтва касцёлаў, розныя малітвы. Як сталы чалавек магу з упэўненасцю сказаць, што малітва заўсёды дапамагае ў нашым нялёгкім жыцці. Асабіста ў маім жыцці яна здзяйсняе цуды! Раю ўсім палюбіць Ружанец...*

*Дарагая Рэдакцыя "Слова Жыцця", ад усяго сэрца дзякую за такую патрэбную газету. Жадаю ўсім супрацоўнікам моцнага здароўя, добрых ідэй і як мага больш чытачоў. Шчасці Божа!*

*Я **Францішак Развадоўскі**. Жыву ў Ваўкавыску. "Слова Жыцця" чытаю з першага нумара. Спачатку гэта было чорна-белае выданне, цяпер каляровае. Незалежна ад знешняга выгляду, у газеце заўсёды галоўнае – упутранае напаўненне, акцэнт на ролю веры ў нашым жыцці.*

*Пачынаю чытаць газету з Евангелля, прызначанага на бягучую нядзелю, і разважання над Божым словам. Чарговая рубрыка – рэфлексія галоўнага рэдактара. Затым чытаю выказванні Святога Айца, біскупаў, святароў. Потым і іншыя артыкулы ажно да дзіцячых баек. З выдання даведваюся, у якой мясцовасці адноўлены ці пабудаваны касцёлы. Гэта асабіста для мяне самае цікавае. Даведваюся таксама пра сіноды, сустрэчы розных груп (сем'яў, святароў, манахінь, міністрантаў і інш.), пілігрымкі. Карацей кажучы, пра рэлігійнае жыццё дыяцэзіі і свету. Вельмі ўдзячны Рэдакцыі за такое цудоўнае Слова Жыцця!*



*Мяне завуць **Данута Грынь**. Жыву ў Гродне. З задавальненнем чытаю "Слова Жыцця" ад першай да апошняй старонкі, перарываючы чытанне з-за слёз. На будучае мне як чытачу была б цікава даведацца пра святых мучанікаў. Хацелася б таксама бліжэй пазнаёміцца з кс. прэлатам Юзафам Трубовічам, а. прафесарам Андрэем Шчупалам CSsR, кс. Максімам Бачарнікавым, а. Раманам Цесляком CSsR. Гэта незвычайныя асобы, якія служаць Богу і людзям, не шкадуючы сіл і здароўя. А яшчэ я была б удзячная за размяшчэнне на старонках газеты анонсаў канцэртаў сакральнай музыкі ў святынях горада. Музыка – гэта "доктар", які зажыўляе душэўныя раны...*

*Вялікі дзякуй за газету, за цікавыя артыкулы на розныя рэлігійныя тэмы, тлумачэнні і настаўленні. Дзякуй рэдактару кс. Юрыю Марціновічу, Ангеліне Пакачайла, Кінзе Красіцкай, Юрыю Лавышу і іншым супрацоўнікам рэдакцыі. Асобны дзякуй за родную польскую мову, якой, на жаль, амаль не чуваць у каралеўскім горадзе Гродне. Няхай Пан Бог беражэ Вас, дарагія мае людзі. Здароўя Вам і блізкім. Няхай сэрцы поўняцца любоўю, міласэрнасцю, радасцю і верай. Усяго найлепшага! Шчасці Божа!*

## Біскуп Аляксандр Кашкевіч сустрэўся з працаўнікамі чыгункі

*Спатканне прайшло ў гродзенскай парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля. У ім прынялі ўдзел чыгуначнікі са Свіслачы, Ваўкавыска, Парэчча, Ліды і Гродна. На спатканні таксама прысутнічаў Генеральны консул Рэспублікі Польшча ў Гродне Яраслаў Ксёнжэк.*

Сустрэча пачалася св. Імшой, падчас якой біскуп асаблівым чынам маліўся за ўдзельнікаў душпастырства чыгуначнікаў Гродзенскай дыяцэзіі і іх сем'і. У гаміліі іерарх заахвоціў прысутных прыняць сапраўдны супакой – супакой Хрыста, які выплывае з Яго прабітага Сэрца, як струмень міласэрнасці і прабачэння, як крыніца новага жыцця, што разліваецца на ўсіх людзей. Ардынарый таксама падзякаваў членам душпастырства за актыўнасць і заклікаў іх да штодзённага служэння. "Няхай ваша праца будзе прыкладам ахвярнай любові да бліжняга, а вашыя сэрцы напаўняе радасць і задавальненне



ад добра выконваемай службы", – дадаў іерарх.

Пасля Імшы адбылася 2-ая частка сустрэчы. Працаўнікі чыгункі ўзгадалі пачаткі ўзнікнення свайго душпастырства, а таксама святароў, якія прымалі актыўны ўдзел у развіцці супольнасці і клапаціліся пра іх духоўнае ўзрастанне.

## У нядзелю Божай міласэрнасці адбылася пешая пілігрымка Сапоцкін–Свяцк

*Паломнікі вырушылі ў капліцу, дзе знаходзіцца абраз "Езу, давяраю Табе".*

Вернікі разам з пробашчам кс. Антоніем Абухоўскім пілігрымавалі ў інтэнцыі сваёй парафіі, родных, блізкіх і сяброў, молячыся Богу, багатаму на міласэрнасць.

У капліцы адбылася адпустовая св. Імша, падчас якой пілігрымы даверылі Езусу Міласэрнаму свае справы і клопаты. Многія прыступілі да Камуніі, каб атрымаць ласкі, абяцаныя Езусам. Згодна з тым, што занатавала ў сваім "Дзённіку" св. Фаўстына, "тая душа, якая ў гэты дзень прыступіць да споведзі і



св. Камуніі, атрымае поўнае адпушчэнне правіннасцей і кар" (Дз. 699).

## Імяніны кс. прэлата Ежы Лявінскага адзначылі ў гродзенскай семінарыі

*У інтэнцыі імянінніка была цэлебравана св. Імша.*

Падчас казання кс. Раман Катлімоўскі ўзгадаў жыццёвы лёс святара. Падкрэсліў яго ўнікальную натуру і высокія чалавечыя якасці, дзякуючы якім "узрастала ў веры не адно пакаленне святароў".

Пасля супольнай Эўхарыстыі кожны меў магчымасць асабіста павіншаваць імянінніка, падзякаваць яму за добразычлівасць, шчырасць, гумар і радасць, якімі ён дзеліцца з іншымі. "Для духоўнай фармацыі клерыкаў вельмі важную ролю адыгрывае прыклад жыцця і сведчанне веры духавенства, якое займаецца іх выхаваннем. Для нас менавіта кс. Ежы з'яўляецца дасканалым прыкладам рэалізацыі святарскага паклікання", – адзначыў ад імя клерыкаў адзін з навучэнцаў семінарыі.



Кс. прэлат Ежы Лявінскі – самы старэйшы выкладчык Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне. На працягу шматлікіх гадоў ён дапамагае алюмнам спасцігаць жыццёвую мудрасць і ўсталёўваць глыбокія адносіны з Хрыстом.

## Моладзь са Шчучына здзейсніла пілігрымку ў Будслаў

*Сёлетнія выпускнікі школ наведалі нацыянальны санктуарый, каб памаліцца перад цудадзейным абразом Маці Божай Будслаўскай аб добрым выбары жыццёвай дарогі і паспяховай здачы экзаменаў. Ва ўзгаданых інтэнцыях у святыні была адпраўлена св. Імша.*

Па дарозе ў марыйны санктуарый выпускнікі наведалі таксама касцёлы ў Іўі і Гервятах, пабывалі на возеры Нарач і ў мемарыяльным комплексе ў Хатыні.

Дзякуючы стараннам шчучынскіх душпастыраў было таксама арганізавана паломніцтва для маладых людзей, якія сёлета збіраюцца прыступіць да сакраманту



канфірмацыі. У рамках падрыхтоўкі моладзь наведала санктуарый у Тракелях.

## Біскуп Аляксандр Кашкевіч удзяліў сакрамант канфірмацыі вернікам з Гродна

*Каля 120-ці парафіян з касцёла Божай Міласэрнасці атрымалі ўмацаванне ў хрысціянскай сталасці.*

Гамілію падчас урачыстай св. Імшы прамовіў кс. Юрый Марціновіч. Святар адзначыў, што ў сакраманце канфірмацыі чалавек адкрываецца на дзеянне Святога Духа, які робіць яго здольным да мужнага вызнавання сваёй веры і жыцця паводле яе прынцыпаў. "Каб быць сведкам Хрыста, трэба прыняць Яго Духа, – сказаў кс. Юрый. – Гэты дар дзейнічае не толькі на нашу карысць. Ён таксама дапамагае і дае сілы для сведчання, так неабходнага свету". Святар дадаў, што чалавецтва мае патэбу ў адважных людзях, здольных паказаць плён Святога Духа.

Затым біскуп намасціў вернікаў алеем хрызма, тым чынам дазволіўшы людскім сэрцам запалаць Божай любоўю. Разам



з тым канфірмаваныя ўзялі на сябе абавязак быць адважнымі вызнаўцамі сваёй веры і несці Добрую Навіну аб Езусе Хрысце іншым людзям, асабліва далёкім ад Касцёла.

На завяршэнне св. Імшы вернікі падзякавалі біскупу за тое, што ўмацаваў іх гэтым сакрамантам.

## Вернікі з Ліды прынялі сакрамант канфірмацыі

*Св. Імша, падчас якой дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі ўдзяліў сакрамант хрысціянскай сталасці, адбылася ў парафіі Унебаўзяцця НПМ.*

Падчас урачыстасці іерарх заклікаў кандыдатаў адкрыцца на дары Святога Духа: мудрасць, розум, раду, мужнасць, умеласць, набожнасць і боязь Божую. Падыходзячы да іх, намашчаў вернікаў алеем святога хрызма і прамаўляў словы: "Прымі знак Духа Святога".

На завяршэнне св. Імшы біскуп заклікаў канфірмаваных да штодзённага сведчання сваім жыццём пра ўваскрослага Хрыста. Іерарх таксама паблаславіў



экземпляры Новага Запавету і крыжы. Уручыў гэтыя сімвалічныя падарункі кожнаму, хто прыняў сакрамант канфірмацыі.

## Біскуп Гродзенскі асвяціў аднаўлены галоўны алтар касцёла ў Воўпе

*Старажытны алтар, выкананы ў стылі ранняга барока невядомымі майстрамі па фундацыі Казіміра Сапегі, грунтоўна адрэстаўраваны дзякуючы намаганням пробашча парафіі св. Яна Хрысціцеля кс. Яна Сарэлы.*

Падчас св. Імшы біскуп Аляксандр Кашкевіч асаблівым чынам памаліўся за ахвяравальнікаў аднаўленага алтара і ўсю парафіяльную супольнасць, а таксама ўдзяліў сакрамант канфірмацыі мясцовым вернікам.

У гаміліі кс. Юрый Марціновіч, адказны за СМІ Гродзенскай дыяцэзіі, адзначыў, што сёння людзі маюць патрэбу ў большым пазнанні Езуса, адзінага Адкупіцеля чалавека. Святар дадаў, што трэба кожны дзень распазнаваць Хрыста, які хоча, каб людзі любілі і шанавалі Яго. Варта паставіць Бога ў цэнтр свайго існавання, каб добра споўніць сваё пакліканне і належным чынам пражыць жыццё. Канфірмаваныя вернікі абавязаліся



высакародна ўключацца ў належнае перажыванне хрысціянства і быць адважнымі вызнаўцамі Хрыста.

На заканчэнне Імшы біскуп Кашкевіч заклікаў маладых людзей добра выкарыстаць час маладосці, а таксама праслаўляць у месяцы маі Найсвяцейшую Панну Марыю, аддаючы Ёй пашану і любоў.

## АНОНСЫ

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ З'ЕЗД МЕДЫКАЎ ПРОЙДЗЕ Ў ГРОДНЕ

**Мерапрыемства на тэму "Прабачэнне. Псіхафізічныя і духоўныя аспекты ў служэнні медыка-хрысціяніна" арганізуе душпастырства службы аховы здароўя на чале з кс. Віталіем Сідоркам.**

Спатканне адбудзецца ў Вышэйшай духоўнай семінарыі 20 мая. Пачатак у 10.00.

*На сустрэчу запрашаюцца медыкі дыяцэзіі.*

### VII ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ ДЗЕНЬ ДЗІЦЯЦІ АДБУДЗЕЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Мерапрыемства пройдзе 1 чэрвеня ў парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (Паўднёвы).**

На сустрэчу запрашаюцца малодшыя вернікі, каб разам у малітве і забаве добра правесці час. Дэвіз сёлетняга мерапрыемства – "Марыя, наша Маці, аб'явілася дзіцяці".

**Умовы ўдзелу:**

- узрост удзельнікаў – да 14-ці гадоў;
- 1 апякун на 10 дзяцей;
- з сабой мець кубак і коўдру або дыванок.

Колькасць удзельнікаў не абмежаваная *(запрашаюцца дзеці з Гродзенскай дыяцэзіі і іншых дыяцэзій Беларусі).*

Арганізатары заклікаюць уключацца ў праграму сустрэчы. Тым, хто хацеў бы прадставіць тэатральную сцэнку, заспяваць на сцэне або прапанаваць іншыя ідэі, якія маглі б узбагаціць план мерапрыемства, патрэбна папярэдне скантактавацца з арганізатарамі.

*Аб удзеле неабходна паведаміць да 26 мая адказнаму за Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці кс. Юрыю Марціновічу па тэл. (8 044) 460-61-40, (8 029) 784-05-72 або на e-mail: sakralna@op.pl.*

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ ДЗЕНЬ БАЦЬКІ ПРОЙДЗЕ Ў КАПЦЁЎЦЫ

**Мерапрыемства па традыцыі адзначаецца ў першую нядзелю чэрвеня. У святынях Гродзенскай дыяцэзіі вернікі моляцца за тых, хто даў ім жыццё, а для памерлых айцоў просяць вечнага шчасця ў небе.**

Сёлетняя ўрачыстасць адбудзецца 4 чэрвеня ў санктуарыі Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі. У гэты дзень туды вырушыць пешая пілігрымка з Гродна.

**Праграма:**

08.00 – выхад пілігрымаў з касцёла Маці Божай Анёльскай (францысканскі);
12.00 – прывітанне пілігрымкі кусташам санктуарыя ў Капцёўцы;
12.00–13.00 – адпачынак і гарбата;
13.00 – Вяночак да Божай міласэрнасці;
13.15 – канферэнцыя для бацькаў, мужчын;
14.00 – Крыжовы шлях;
15.00 – св. Імша за бацькаў (жывых і памерлых);
16.30 – ад'езд аўтобусамі ў Гродна.

*Да ўдзелу запрашаюцца бацькі, а таксама ўсе мужчыны, каб прасіць у Панны Марыі ласкаў для сваіх сем'яў.*

### IX ПАРАФІЯДА ДЗЯЦЕЙ І МОЛАДЗІ АДБУДЗЕЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Дыяцэзіяльнае мерапрыемства пройдзе 19–22 чэрвеня на тэрыторыі парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (Паўднёвы), парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля (Дзевятоўка) і стадыёне ЦСК "Нёман". Дэвіз сёлетняга спаткання – "Разам з Марыяй да Езуса".**

Парафіяда – праект, заснаваны на старажытнагрэчаскай трыядзе "Святыня – Тэатр – Стадыён". Арганізатары забяспечваюць удзельнікам харчаванне і пражыванне, выхаваўча-рэлігійную, культурную і спартыўную праграму.

Кошт – 3 р. (ёсць магчымасць вызвалення ад аплаты). Да ўдзелу запрашаюцца дзеці і моладзь з усёй Беларусі ва ўзросце 11–19 гадоў. Максімальная колькасць прадстаўнікоў ад адной парафіі – 15 чалавек + 1 апякун (можа быць і меншая група). Пры сабе трэба мець аформленую медыцынскую карту ўдзельніка Парафіяды з фотаздымкам, не старэйшым за 1 год.

*Паведаміць аб удзеле неабходна да 1 чэрвеня адказнаму за Парафіяду кс. Артуру Малафею па тэл. (8 033) 624-35-22 або (8 029) 319-54-65. Лісты ўдзельнікаў (імя, прозвішча, дата нараджэння, месца жыхарства) дасылаць да 15 чэрвеня на e-mail: grodno.parafiada@mail.ru.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**7 мая 1944 г.** – кс. Яраслаў Войдаг, *проб. Ліпнішкі;*
**7 мая 1996 г.** – кс. інфулат Станіслаў Кучынскі, *рэктар ВДС, ген. вік. Гродна;*
**12 мая 1977 г.** – кс. Кляменс Півараун, *проб. Васілішкі;*
**13 мая 1948 г.** – кс. Валяр'ян Галяк, *проб. Ашмяны;*
**18 мая 1987 г.** – кс. прэлат Казімір Арлоўскі, *проб. Адамавічы.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка* ***grodnensis.by***

# ХРЫСТОС КЛІЧА ТАГО, КАГО ХОЧА, І АДОРВАЕ ТЫХ, ХТО АДКРЫТЫ І ПРАГНЕ ГЭТАГА

**У Паўсюдным Касцёле распачаўся 54-ы Сусветны тыдзень малітваў аб святарскіх, манаскіх і місійных пакліканнях. Вернікі запрошаны злучыць свае інтэнцыі з просьбай да Бога, каб паслаў "работнікаў на жніво сваё" (Мц 9, 38).**

**Пакліканне нараджаецца ў малітве і з малітвы. У гэтым моцна ўпэўнены кс. канонік Юзаф Ганьчыц, пробашч парафіі Святой Сям'і ў Лідзе. Пра асабісты шлях да святарства, вартасць унутраных канфліктаў на этапе фармацыі і вызначальную ролю пакоры – у спецыяльным інтэрв'ю для "Слова Жыцця".**



*Кс. Юзаф у атачэнні клерыкаў, выхадцаў з парафіі Святой Сям'і ў Лідзе*

**Кожнае пакліканне – таямніца як для людзей, так і для самаго абранага. Напрыклад, св. Тэрэза ад Дзіцятка Езус ужо ў 9-гадовым узросце ведала, што хоча прысвяціць сваё жыццё Богу. А св. Аўгусцін ахрысціўся толькі ў 33 гады. Кс. Юзаф, падзяліцеся сваёй гісторыяй: калі зразумелі, што Усемагутны кліча Вас да службы ў Касцёле?**

Бог ясна прамовіў да мяне праз кс. каноніка Уладзіслава Мяшчанскага, далёкага сваяка маёй бабулі з боку мамы, які раіў пайсці ў семінарыю. Я не згаджаўся, тлумачачы, што не дам рады вучыцца пасля столькіх гадоў перапынку. Меў тады 30 гадоў. А ён не адступаўся і настойваў.

Тады Бог даў яшчэ 1 знак – мяне звольнілі з працы. І я вырашыў паступіць у семінарыю, хоць і не быў міністрантам ды нерэгулярна хадзіў у касцёл. Але ў Бога на кожнага свой план. Сёння мне дакладна вядома, што чалавек пакліканы ўжо ва ўлонні маці.

**Якую ролю ў духоўным фарміраванні асобы, на Ваш погляд, адыгрывае сям'я?**

Яна з'яўляецца найважнейшай школай у жыцці кожнага чалавека. Вельмі значны прыклад бацькоў, бо з яго пачынаецца выхаванне. Для мяне заўсёды ўзорам жыцця Евангеллем была і застаецца мама, ад якой ніколі не чуў дрэнных слоў, хоць мела поўнае цярпення і несправядлівасці жыццё. Яе маці – мая бабуля – адышла па ўзнагароду да Пана ў арэоле святасці. Яна горача малілася аб пакліканнях і ахвяравала свае цярпенні ў гэтай інтэнцыі. Асабліва ўдзячны за малітоўную падтрымку маме, а святарам, якіх Бог паставіў на маім шляху, – за іх сведчанне жыцця. Шмат іншых людзей таксама паспрыялі развіццю майго паклікання. Я нават магу не памятаць усіх. Гэта таямніца, вядомая толькі Богу.

**Як абранаму не памыліцца на этапе распазнання паклікання і належным чынам адказаць на яго?**

Найлепшы адказ на пакліканне – імкненне, наколькі гэта магчыма, уносіць свой уклад у духоўнае развіццё, што засноўваецца на пакоры. Вельмі важнае значэнне маюць малітва і адарацыя. Да таго ж, святар без адарацыі, як салдат без амуніцыі. Знаходжанне перад Найсвяцейшым Сакрамантам ачышчае душу. Мы добра тое ведаем, але, на жаль, гэтага вельмі не хапае… Езус вырашае праблемы, неабходна толькі ахвяраваць іх Яму. Варта расказаць Хрысту аб сваім жаданні. Ён кліча таго, каго хоча, і адорвае тых, хто адкрыты і прагне гэтага.

**Часам паміж асабістымі амбіцыямі чалавека і Божым намерам можа здарыцца ўнутраны канфлікт. Але ж Усемагутны не можа памыліцца ў людзях, якіх кліча да службы ў сваёй аўчарні?**

Менавіта для гэтага існуе семінарыя, дзе духоўныя асобы праз малітву і Божае слова могуць аказаць дапамогу таму, хто чуе голас паклікання, а таксама распазнаць, наколькі кандыдат гатовы да святарства.

**А ці могуць, увогуле, унутраныя канфлікты павярнуцца на карысць чалавеку?**

Унутраныя канфлікты вельмі патрэбны для духоўнага фарміравання. Падчас навучання ў семінарыі я таксама перажываў падобныя выпрабаванні. І тады – сёння магу гэта з упэўненасцю сказаць – Марыя праз змест аб'яўленняў у Фаціме і ў Фантанэле ўмацавала маю веру. Таму, канешне, гэта магчыма і нават патрэбна.

**Чаго ад чалавека патрабуе згода стаць на шлях святарскага служэння?**

Бог кожнаму дае дары, а мы павінны адказаць на гэта праз служэнне тым, каго Ён кожны дзень ставіць на нашым шляху. Інакш кажучы, служыць – значыць дапамагаць адзін аднаму. Святар імкнецца да як мага бліжэйшых адносін з Езусам, прагне быць Ім прасякнутым. Пасля чаго пакліканы дзяліцца гэтым досведам з Божым людам.

**Парафіяльная супольнасць у Лідзе на чале з пробашчам кс.канонікам Юзафам Ганьчыцам з'яўляецца вельмі моцнай і жывой. Цэлае войска хлопцаў належаць да літургічнай службы алтара. Ужо некалькі гадоў запар адзін з іх паступае ў Вышэйшую духоўную семінарыю ў Гродне, тым самым узбагачаючы святарскую сям'ю ў дыяцэзіі.**

*Кс. Юрый Марціновіч
і Ангеліна Пакачайла*



ЖЫЦЦЁ КАСЦЁЛА Ў АБ'ЕКТЫВЕ

# Дыяканы Андрэй Бялаблоцкі і Анджэй Ганчар прынялі святарскія пасвячэнні



Выпускнікі Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі атрымалі пасвячэнне з рук біскупа Аляксандра Кашкевіча ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне. Ва ўрачыстасці прынялі ўдзел шматлікія святары, выкладчыкі і выхавацелі семінарыі, родныя новапрэзбітэраў і вернікі дыяцэзіі. На наступны дзень новапасвечаныя святары цэлебравалі прыміцыйныя св. Імшы ў сваіх родных парафіях.













# ЧАМУЧКІ
Дзіцячая рубрыка

## Чаму месяц май з’яўляецца марыйным месяцам?



## Заданне:

зрабі прыгожыя “білецікі” з інтэнцыямі, у якіх будзеш маліцца да Марыі на працягу месяца мая.

Май – самы цёплы і ласкавы з вясновых месяцаў. Яго яшчэ называюць “месяцам кветак”. Гэта звязана з тым, што пасля першых дажджоў нарэшце прыходзіць добрае надвор’е. Палі і сады зелянеюць, паветра напаўняецца прыемным водарам кветак. Можна сказаць, май – гэта вяршыня вясны.

У антычную эпоху месяц май быў прысвечаны рымскай багіні Маі – маці прыроды, урадлівай зямлі. З часоў сярэднявечча ў “месяцы кветак” хрысціяне пачалі ўшаноўваць Найсвяцейшую Панну Марыю, каб выказаць глыбокую павагу цнотам і прыгажосці Маці Божай. Магчыма, і каб выкараніць існуючыя паганскія ўрачыстасці, прысвечаныя флоры.

Першыя дакументальныя сведчанні аб тым, што месяц май прысвячаецца Панне Марыі, звязаны з імем караля Іспаніі Альфонса X Мудрага, які кіраваў краінай у XIII стагоддзі. Манарх пісаў і спяваў песні Найсвяцейшай Маці, часта звяртаўся да Яе, называючы Марыю “Ружай руж і Кветкай кветак”. Хацеў узмацніць людскую любоў і пашану да Маці Касцёла – Той, якая заўсёды клапоціцца пра чалавека, дапамагае яму перамагаць спакусы, заставацца ў стане ласкі і сяброўстве з Богам, каб дасягнуць Нябеснага Валадарства.

Марыя дапамагае кожнаму чалавеку, асабліва таму, хто звяртаецца да Яе ў патрэбе. І чыніць вялікія цуды. А сведчаннем гэтаму няхай будзе цікавае апавяданне святара-салезіяніна Бруна Фэрэра пад назвай “Залаты абутак”.

**Жыла на свеце ўдава, якая мела дзвюх дачок. Жанчына шмат працавала, каб іх утрымаць. Прала ўдзень і ўначы. У свята Маці Божай яна занесла сваю пражу да суседак з надзеяй, што атрымае аплату за замоўленую працу. Аднак не здабыла ні капейкі. Усе мелі нейкія прычыны, каб не плаціць жанчыне.**

**Па дарозе дадому ўдава затрымалася ў касцёле, каб памаліцца перад фігурай Маці Божай Ружанцовай.**

**– Святая Марыя! Ты, якая таксама з’яўляешся Маці, скажы мне, што я павінна сёння даць на абед маім бедным дачушкам? Не маю чым распаліць агонь у печцы, не маю ні мукі, ні хлеба... Дапамажы мне, бо я ў роспачы.**

**Маці Божая злітавалася над няшчаснай. Выцягнула ўперад сваю нагу і скінула перад ёй залаты чаравік. Дрыжучы ад радасці, жанчына паспяшалася да ювеліра, каб прадаць дар Найсвяцейшай Маці. Аднак ён адразу пазнаў, што гэта рэч Марыі. Паклікаў вартавых парадку, і жанчыну адвялі ў турму.**

**Перад судом удава жаласліва прасіла, каб магла памаліцца перад фігурай Маці Божай Ружанцовай.**

**– Святая Марыя, – прасіла жанчына. – Ці можаш пацвердзіць, што гэта Ты сама дала мне свой абутак, што я яго не крала?**

**Усе глядзелі ў маўчанні. І вось фігура пачала ажываць. Твар паволі набраў колераў, і Маці Божая паднесла нагу ўперад і скінула жанчыне другі залаты чаравік. У гэты момант усе паверылі ў цуд. Некаторыя плакалі, іншыя радаваліся. А ўдава вярнулася дамоў да сваіх дачок з залатым абуткам Марыі.**

***С. Вераніка Блізнюк FMA***

**Чакаем Тваіх “чаму”, якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі.**
На пытанні заўсёды гатовыя адказаць салезіянкі са Смаргоні.

# Ад шчырага сэрца

**Глыбока паважанаму Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды Імянін перасылаем букет сардэчных пажаданняў: моцнага здароўя, сілы і трываласці на кожны дзень, непахіснай веры і надзеі, а таксама штодзённага аптымізму і супакою ў сэрцы. Няхай усемагутны Бог узмацняе і адорвае сваім бласлаўленнем, а Найсвяцейшая Маці заўсёды апекуецца.

*Рэдакцыя “Слова Жыцця”*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Езус Хрыстус адорвае ўсімі ласкамі, а Маці Божая прытуляе да свайго мацярынскага сэрца, нястомна апекуецца і абараняе ад зла. Няхай пастырская паслуга будзе напоўнена моцай і дарамі Святога Духа, а здароўе і цярплівасць ніколі Вас не пакідаюць.

*С. Ірэна Златкоўская, Генеральная настаяцельніца Супольнасці сясцёр дапаможніц чысцовым душам*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

ў Дзень імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: бласлаўлення ад Усемагутнага, здароўя, радасці, аптымізму, моцнай веры, сілы ў абвяшчэнні Праўды і дасягненні Божага Валадарства на зямлі, а таксама нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень душпастырскай паслугі.

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Ваша Эксцэленцыя Ксёндз Біскуп Аляксандр Кашкевіч!**

З нагоды Імянін жадаем, каб Езус Хрыстус і Яго Найсвяцейшая Маці нястомна адорвалі Вас бязмежнай любоўю і асвячалі кожны дзень жыцця. Дзякуем за цёплую ўсмешку, добрае сэрца і клопат пра нас. Памятаем пра Вас у сваіх малітвах. Шчасці Божа!

*Студэнты катэхетычных курсаў пры Аддзеле каталіцкага навучання і выхавання Гродзенскай курыі*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Павайбу**

з нагоды Імянін дасылаем найлепшыя пажаданні: Божага бласлаўлення, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, дароў Святога Духа, усіх неабходных ласкаў ад Хрыста, моцнага здароўя, супакою ў сэрцы, душэўнай раўнавагі, а таксама добразычлівых людзей побач. Дзякуем Пану Богу за тое, што даў нам такога святара, які нясе людзям Божае слова, святло, надзею і радасць.

*Бацькі, сёстры і брат*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Ёдзіку**

з нагоды Імянін перасылаем букет сардэчных пажаданняў: Божых ласкаў, дароў Святога Духа на доўгія гады святарскай паслугі, нястомнай дапамогі св. Заступніка, Божай міласэрнасці, поспехаў, здароўя, душэўнага супакою і радасці на кожны дзень. Няхай Маці Божая атуляе плашчом сваёй апекі і заступаецца за Вас перад Панам.

*Апостальскі рух “Маргарытка” са Смаргоні*

**Паважаны Айцец Віталій Сярко!**

З нагоды Дня нараджэння і 15-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў складаем сардэчныя пажаданні: Божага бласлаўлення, дароў Святога Духа, апекі Беззаганнай Маці, св. Максімільяна і св. Язафата Кунцэвіча, шмат здароўя, добрага настрою, душэўнага супакою. Дзякуем за глыбокія і павучальныя казанні, добрыя словы і парады, адкрытае сэрца, адданую паслугу Богу і людзям.

*Рыцарства Беззаганнай са Шчучына*

**Паважаным Ксяндзам Аляксандру Сямінскаму і Аляксандру Мацкевічу**

з нагоды Імянін перасылаем шчырыя пажаданні: здароўя, сапраўднай радасці і светлай надзеі, шчырых і сумленных людзей на жыццёвым шляху, міласэрнасці і велікадушнасці, поспехаў, нязгаснага душэўнага цяпла ў складаным святарскім служэнні. Няхай Маці Божая атуляе Вас сваёй любоўю і апекай і выпрошвае ў Езуса неабходныя ласкі, а святы Заступнік няхай падтрымлівае, асабліва ў цяжкія моманты жыцця.

*З малітвай, апостальства “Маргарытка” з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Спірыдону**

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, дабрабыту і шчасця, ажыццяўлення планаў і мар, Божых ласкаў і шмат радасных момантаў. Няхай Дух Святы асвятляе кожны дзень святарскага служэння, каб Вы маглі крочыць па Божым шляху да святасці. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, а Марыя з любоўю прытуляе да сэрца.

*З малітвай, апостальства “Маргарытка” з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Андрэю Агелю**

з нагоды Юбілею перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай Езус Хрыстус, якога штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, бласлаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінае апекай і любоўю, а Святы Дух дапамагае годна выконваць душпастырскую паслугу і нястомна адорвае сваімі ласкамі. Жывіце ў здароўі і радасці, а сэрца няхай заўсёды будзе напоўнена любоўю і супакоем.

*З удзячнасцю, сям’я Снапко, Ліда-Індустрыяльны*

**Паважаным Ксяндзам Станіславу Лабану і Аляксандру Лебядзевічу**

ў Дзень імянін жадаем моцнага здароўя, Божага бласлаўлення і апекі Панны Марыі на далейшыя гады святарскай паслугі.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам, апостальства “Маргарытка” і парафіяне з Беняконяў*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Рэйшалю**

з нагоды 25-годдзя святарскіх пасвячэнняў перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай сэрца штодня поўніцца радасцю ад выконваемай душпастырскай паслугі, здароўе не турбуе, а побач будуць добрыя і зычлівыя людзі. Няхай Найсвяцейшая Маці і Езус міласэрны Вамі апекуюцца, а Анёл-ахоўнік выпрошвае ў Бога ўсе неабходныя ласкі.

*З памяццю, вернікі з в. Мештуны*

**Паважанаму Ксяндзу Леону Ладышу**

з нагоды 25-годдзя святарскіх пасвячэнняў складаем сардэчныя пажаданні. Няхай зерне, засеянае Вамі на Божай ніве, прыносіць шчодры плён. Жадаем моцнага здароўя, сіл для абвяшчэння Божага слова, радасці і нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай Усемагутны, які паклікаў Вас да святарскага служэння, дапамагае ў рэалізацыі паслугі, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі ласкамі. Нізкі паклон за працу ў нашай парафіі.

*З малітвай, удзячныя вернікі з касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Войстаме*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Роўбу**

з нагоды 40-годдзя перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады і штодзённай радасці. Няхай дарога, якую Вы выбралі, будзе шчаслівай і добрай, каб з радасцю маглі служыць Богу і людзям. Няхай Вамі заўсёды апекуцца Бог Айцец, Сын Божы і Дух Святы, а Найсвяцейшая Маці прытуляе да свайго сэрца і дапамагае ў складаных жыццёвых момантах.

*Касцёльны камітэт з парафіі Вавёрка*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Севасцьяновічу**

з нагоды Імянін складаем букет найлепшых пажаданняў. Ад усяго сэрца жадаем Божага бласлаўлення, усіх дароў Святога Духа на кожны дзень, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка, а таксама добразычлівых людзей побач. Няхай здароўе спрыяе на працягу доўгіх гадоў, а радасць, любоў і шчасце будуць найлепшымі сябрамі.

*Францішканскі ордэн свецкіх, апостальства “Маргарытка” і Колы Жывога Ружанца з парафіі Тэалін*

**Паважанаму Ксяндзу Антонію Абухоўскаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог бласлаўляе і адорвае Вас сваімі ласкамі, каб стойка накіроўваліся па выбраным Вамі шляху. Няхай усе людзі, якіх сустракаеце ў жыцці, адорваюць Вас дабрынёй і зычлівасцю, а ўсемагутны Бог спасылае свае шчодрыя дары. Шчасці Божа!

*Францішканскі ордэн свецкіх, апостальства “Маргарытка” і Колы Жывога Ружанца з парафіі Тэалін*

**Паважаным Яніне Малышка, Яніне Галавач і Ядзвізе Альшэўскай**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, Божага бласлаўлення на кожны дзень, нястомнай апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Ваша жыццё будзе шчаслівым і бласлаўлёным, з твару не знікае ўсмешка, а побач будуць добразычлівыя людзі. Шчасці Божа!

*Францішканскі ордэн свецкіх і Колы Жывога Ружанца з парафіі Тэалін*

**Дарагому Зыгмунту Крывіцкаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні ўсяго найлепшага: моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, душэўнага супакою, радасці, сілы і стойкасці на кожны дзень, аптымізму, а таксама нязгаснага запалу веры, надзеі і любові.

*Жонка, дзеці і ўнукі, в. Радзівілкі*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Баклажцу**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца перасылаем пажаданні моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, душэўнага супакою, моцы і цярплівасці на святарскім шляху, аптымізму на кожны дзень, шчасця і радасці, а таксама дабрыні і любові ад усіх, хто знаходзіцца побач. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Крамяніцы*

**Паважанаму Ксяндзу Станіславу Пытэлю**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай усё Ваша жыццё будзе напоўнена святлом і любоўю. Няхай Збаўца вядзе Вас па цудоўнай дарозе святарства, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Васілішкаў*

**Паважанаму Кяндзу Аляксандру Раманоўскаму**

з нагоды Імянін і Дня нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні. Няхай кожны дзень будзе напоўнены Божай любоўю, а выконваемая праца прыносіць радасць, бласлаўлёны і шчодры плён. Жадаем шмат здароўя, сіл, стойкасці, зычлівых людзей побач і моцнай нязгаснай веры. Няхай добры Бог шчодра адорвае Вас сваімі ласкамі.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам, Парафіяльная рада і вернікі з касцёла Гродна-Паўднёвы*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Сядлецкаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў, спалучаных з малітвай: апекі Найсвяцейшай Маці, усіх ласкаў і дароў Святога Духа, шмат сіл і здароўя ў рэалізацыі Божых планаў, зычлівых і добрых людзей побач. Няхай кожны дзень жыцця будзе напоўнены радасцю і супакоем.

*Парафіяне з вёсак Навіянка і Пашэлі*

**Паважаны Айцец Андрэй Зуй!**

Так склалася, што з верасня мінулага года Вы зноў вярнуліся на службу ў нашу парафію ў якасці вікарыя. За такі кароткі час шмат спраў ужо зроблена! Асабліва ўдзячныя за прывядзенне ў парадак могілак. Дзякуючы Вашым намаганням былі спілаваны і вывезены старыя дрэвы. Выказваем таксама шчырую ўдзячнасць Сястры Луцыі і тым Парафіянам, якія далучыліся да падрыхтоўкі святочных дэкарацый падчас калядных і велікодных урачыстасцей. Хай ад Бога Айца Вам здароўе і сіла даецца. І, як сэрца Езуса, пераменіцца Вашае сэрца. Хай ад Духа Святога нісходзяць да Вас мудрасць і ўменне, а ад Маці Божай – разважлівасць, ласкавасць і цярплівасць.

*З павагай, парафіяне з касцёла св. Казіміра ў Ліпнішках*

**Паважаны Ксёндз Станіслаў Пытэль!**

Ад усяго сэрца дзякую Вам за тое, што нястомна абвяшчаеце Божае слова і проста з’яўляецеся цудоўным чалавекам. Да Вас заўсёды можна звярнуцца за дапамогай і парадай. Вы сапраўдны намеснік Хрыста на зямлі! Добры, як бацька да сваіх дзяцей, вельмі цярплівы да парафіян. Дзякуючы Вашым намаганням 20 гадоў таму ў Шастакоўцах паўстала капліца, якую будавалі Юзаф Усэвіч, Ян Дабрылка, Ядзвіга Смялкоўская, Генрых Рамашкевіч і іншыя. Гэтыя людзі пакінулі нам вялікую памятку сваёй працы. Штодзённа ўзгадваем іх у сваёй малітве.

*Зоф’я Роўба, Шастакоўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Бялаблоцкаму**

з нагоды святарскіх пасвячэнняў ад шчырага сэрца жадаем плённай душпастырскай паслугі, моцнага здароўя, сіл і цярплівасці на выбраным шляху, душэўнага супакою і добразычлівых людзей побач. Няхай Усемагутны адорвае Вас шчодрымі ласкамі, Дух Святы нястомна спасылае свае дары, а Найсвяцейшая Маці апекуецца ў кожную хвіліну. Шчасці Божа!

*Моладзь з гродзенскай катэдры*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл: **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2133; тыраж 4970; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная